№ 635, Студзень - Красавік 2019 г.

Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc. since September 20th, 1950.***

*Postal address:*
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

***Па розных уважлівых прычынах першы нумар нашай газэты ў сёлетнім годзе выходзіць напрыканцы вясны, за што прыносім нашыя выбачэньні.***

***Галоўным вясновым сьвятам для беларусаў штогод ёсьць адзначэньне ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР — Дзень Волі. Таму гэты выпуск газэты мы адчыняем тэмаю сьвяткаваньня.***

***Вы пабачыце, як адзначалі Дзень Волі на Бацькаўшчыне, у нас — у Амэрыцы і ў іншых краінах сьвету. Мы лічым сваім абавязкам падаваць інфармацыю пра імпрэзы ва ўсіх асяродках беларускай эміграцыі ў сьвеце, адкуль маем паведамленьні, бо сёньня беларускі друк ў замежжы вельмі абмежаваны. Добра было б, каб у нашу газэту падаваліся інфармацыі пра імпрэзы і розныя падзеі у беларукім замежжы, каб вы маглі спадзявацца, што гэта застанецца для гісторыі.***

***Адгукаемся мы і на вельмі сумную нядаўнюю падзею ў Беларусі, калі былі зьнішчаныя крыжы ў Курапатах.***

***Падаем зьвесткі пра іншыя адметныя падзеі ў беларускім жыцьці на чужыне. Друкуем паведамленьні, віншаваньні. Шкада толькі, што нашыя суродзічы мала калі імкнуцца, каб адзначыць у газэце важныя моманты з асабістага жыцьця імігрантаў — павіншаваць сяброў і паплечнікаў са сьвятамі, з юбілеем, з нараджэньнем дзяцей ці завяршэньнем вучобы ў каледжы. Раней шае пакаленьне больш дбала пра гэта.***

***Жадаем вам прыемнага чытаньня і спадзяемся на вашае жаданьне больш пісаць у нашу газэту, бо яна найперш ваша газэта, інфармацыйная крыніца пра ваша жыцьцё на эміграцыі.***

***Рэдакцыя.***

# САКАВІК - 2019

## РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Дарагія мае суродзічы-беларусы!**



У гэты першы Дзень Волі другога стагодзьдзя нашай Рэспублікі хочу падзяліцца з вамі маім захапленьнем: нягледзячы на ўсе зьдзекі, на фізычнае нішчэньне найлепшых сыноў і дачок нашага народу, на прапаганду, якая прадаўжаецца да сёньня; нягледзячы на стараньне ворагаў, каб сьцерці наш край з паверхні Зямлі — мы выжылі!

## Віншаваньне з Днём Волі

**Беларусь – жыве!**

Другое стагодзьдзе нашай сучаснай дзяржавы пачалося, на жаль, узмоцненай прапагандыцкай атакай супраць яе. Але, за апошнюю чверць стагодзьдзя беларусы навучыліся разважаць іншымі катэгорыямі і ведаюць розьніцу між воляй і рабствам.

Многія беларусы, перад усім з маладога пакаленьня, на свае вочы пабачылі, як заможна жывуць нават маленькія дзяржавы, якія не заўсёды маюць прыродныя багацьці, але якія маюць таленавітае і працавітае грамадзтва, якое супольна працуе на дабрабыт свайго народу.

Беларускай моладзі ня трэба даказваць, што супольнасьць пасьпяховых, адукаваных і вольных грамадзянаў — гэта самы важны рэсурс краіны. Спатканьні мае з маладымі беларусамі напаўняюць сэрца радасьцю: гэта золата, якое мы павінны цаніць.

Дык зьвяртаюся сёньня перад усім да Вас, мае дарагія маладыя сябры! Вы здольныя выратаваць наш край ад новай няволі. Вы маеце пачуцьцё годнасьці вольнага чалавека. Вы ведаеце, хто вы!

Віншую ўсіх вас, асабіста і ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, з новым, другім стагодзьдзем ад абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі і жадаю, каб змаганьне за волю было плённым і пераможным!

**Жыве Беларусь!**

***Івонка Сурвілла,***
*Старшыня Рады БНР*
*Сакавік 2019 г.*

# Сьвяткаваньне Дня Волі Беларусь

## Канферэнцыя, прысьвечаная Дню Волі

Канферэнцыю арганізавала Кансерватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ. Быў зачытаны зварот старшыні партыі Зянона Пазьняка, выступілі іншыя яе кіраўнікі і актывісты, навукоўцы.

Па словах сакратара партыі Валера Буйвала, Дзень Волі — гэта не толькі нацыянальнае сьвята, важнае асабліва ў наш драматычны час, і не толькі нагода, каб успомніць славутыя яркія старонкі мінуўшчыны і нашыя нацыянальныя каштоўнасьці.

– Мы арганізоўваем гэты дзень для таго, каб нагадаць пра неабходнасьць нашай нацыянальнай салідарнасьці перад небясьпекай расейскай агрэсіі, якая разгортваецца ўжо і на нашай тэрыторыі, тым больш на тэрыторыі Украіны і іншых дзяржаў рознымі гібрыднымі і брутальнымі метадамі. Менавіта дзякуючы нацыянальнай салідарнасьці Беларусь можа выратавацца і перамагчы ў сучаснай драматычнай сітуацыі, — падкрэсьліў Валер Буйвал.

*Працяг на 2-й бачыне*



# Сьвяткаваньне Дня Волі

## Менск



*Пачатак на 1-й бачыне*

Перад удзельнікамі канферэнцыі выступілі намесьнік старшыні партыі Сяргей Папкоў, адказны сакратар управы партыі Алесь Чахольскі, кандыдат гістарычных навук Эдвард Зайкоўскі, мастак Аляксей Марачкін і іншыя.

"У сёньняшніх умовах галоўнае сьвята беларусаў — гэта Дзень Волі. Мы адстойваем не нейкія абстракцыі, а свой дом, сваю зямлю, мову, гісторыю, культуру, сваю краіну. І ў сытуацыі, калі над гэтым навісла пагроза, нельга быць нейтральным, нельга быць абыякавым, — на гэта акцэнтаваў ўвагу ў сваім выступе Алесь Чахольскі.

На завяршэньне адбыўся невялікі канцэрт.

## Гародня



## Канцэрт у гонар Дня Волі





Сёлета побач з Менскам галоўным месцам сьвяткаваньня Дня Волі ў Беларусі сталася Гародня, дзе ўлады дазволі сьвяточныя мерапрыемствы ў Каложскім парку. Сюды зьязджаліся людзі з усёй краіны.

На сьвяточным канцэрце выступілі Лявон Вольскі, «Крама», «Dzieciuki», Зміцер Вайцюшкевіч і «Дай дарогу». У перапынках прамаўлялі гісторыкі, сьвятары, палітыкі й арганізатары мерапрыемства.





## Канцэрт ў Кіеўскім сквэры

24 сакавіка ў Кіеўскім скверы ў Менску прайшоў вялікі сьвяточны канцэрт да Дня Волі. Мерапрыемства адбывалася з дазволу Менгарвыканкама, удзельнікі прыносілі нацыянальную сымболіку.

Вядомыя беларускія музыкі — Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Ігар Варашкевіч, Павел Аракелян — зьбіраліся павіншаваць менчукоў з Днём Волі вулічным канцэртам у цэнтры гораду. Іх затрымалі, як толькі яны дасталі музычныя інструменты.

Але, моладзь, якая сабралася на канцэрт, засталася і працягвала сьпяваць песьні з рэпэртуару Лявона Вольскага

Яшчэ 10 чалавек былі затрыманыя на Кастрычніцкай плошчы за спробу зладзіць шэсьце да будынка, дзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка.

Пазьней музыкі былі вызваленыя. На іх склалі пратаколы за спробу «зладзіць вулічны канцэрт».





Акцыя да Дня Волі адбылася на Кастрычніцкай плошчы, якую цяпер удзельнікі апазыцыйнага руху называюць плошчаю Каліноўскага.



Актывісты Руху салідарнасьці «Разам» — сьвятар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы айцец Вікенцій і сустаршыня Руху Алена Талстая — выйшлі на плошчу з бел-чырвона-белым сьцягам і плакатам «Дзень Волі ў няволі».

Айца Вікенція праваахоўнікі ў цывільным забралі ў аўтобус і зьвезлі на самым пачатку акцыі. Алена Талстая паспела прымкнуць сябе да ліхтарні металёвым тросам. Людзі ў цывільным парвалі плякат і выклікалі пажарную машыну МНС, каб перарэзаць трос. Спадарыні Алене ўдалося прастаяць на плошчы каля дваццаці хвілін.

Увечары 24 сакавіка а 9-й гадзіне быў зладжаны сьвяточны пэрфоманс — па ўсёй краіне актывісты запускалі салюты.

## Варшава



Незалежнасць і свабода — тыя каштоўнасьці, якія яднаюць беларусаў з усяго свету. 23 сакавіка ў Варшаве ладзілася традыцыйная імпрэза з нагоды абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Імпрэза распачалася з мітынгу каля помніку Тадэвушу Касцюшку — герою паўстаньня 1794 года. Пасля гэтага ўдзельнікі імпрэзы — а іх сабралася больш за 100 асобаў — рушылі шэсьцем праз цэнтр Варшавы да помніка Адаму Міцкевічу.

Падобныя імпрэзы ладзяцца з 2012-га году.

Гісторык Ігар Мельнікаў, які ўзяў удзел у сьвяткаваньні, павіншаваў прысутных і падзяліўся сваім рэцэптам як стаць сапраўднымі беларусамі:

«Жадаю беларусам, каб яны больш глыбока дасьледавалі ўласную гісторыю, каб яны звярталіся да сваіх гістарычных ведаў, каб размаўлялі са сваімі старымі, якія яшчэ жывуць, каб шанавалі сваю гістарычную спадчыну. Толькі так мы можам прайсьці свой шлях да беларушчыны і канчаткова стаць не нейкімі «тутэйшымі», а сапраўднымі беларусамі».

«Я жадаю беларусам не толькі на Дзень Волі, але на ўвесь час, заставацца вольнымі, нягледзячы на тую сітуацыю, якая ў нас усё яшчэ цягнецца. Таму галоўнае, каб нашае першароднае жаданьне быць вольнымі жыло ў нашых сэрцах», — выказалася студэнтка з Беларусі Юля.

## Прага



Адзначэньне 101-й гадавіны незалежнасьці БНР, арганізаванае суполкай “Скарына”, пачалося ў нядзелю раніцай 24 сакавіка беларускай багаслужбай у грэка-каталіцкім касьцёле сьвятых Кузьмы і Дзям'яна.

Пасьля ўдзельнікі сьвяткаваньня традыцыйна накіраваліся на Альшанскія могілкі, дзе спачываюць два прэзыдэнты Рады БНР — Пятро Крачэўскі і Васіль Захарка, каб ушанаваць іх памяць і іх выбітную ролю ў гісторыі БНР.




## Лёндан



23 сакавіка 2019 г. у залі Беларусага Дому ў Лёндане адбылася ўрачыстая акадэмія на адзначэньне 101-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі .Сьвяткаваньне было арганізавана Згуртаваньнем беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

Імпрэзу распачаў малітвай а. Сяргей Стасевіч. Намесьнік старшыні ЗБВБ Павел Шаўцоў прачытаў сьвяточны зварот Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы. У сваім выступе старшыня ЗБВБ Мікалай Пачкаеў распавёў пра сітуацыю са сьвяткаваньнем Дня незалежнасьці ў сучаснай Беларусі і пра рашэньне Рады БНР ўсталяваць юбілейны мэдаль да 100-годзьдзя БНР. Прысутным былі паказаныя здымкі гістарычных пячатак Рады, адна з якіх была ўжытая на сэртыфікатах мэдаля. Сход праслухаў прывітальны відыё-зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы да беларусаў у Вялікай Брытаніі і брытанскіх сяброў Беларусі з нагоды 25 Сакавіка і ўзнагароджаньня пяці асобаў мэдалем Рады БНР у Вялікай Брытаніі . Далей адбылася цырымонія ўручэньня мэдалёў чатыром зь ліку ўзнагароджаных асобаў, прысутным на сходзе: сп. Джыму Дынглі, праф. Арнольду МакМіліну, сп-ні Лёлі Міхалюк, а. Сяргею Стасевічу. Сп. Лёлі Міхалюк, былой старшыні ЗБВБ, былі ўручаныя кветкі. Таксама кветкі былі ўручаныя сп. Алене Сеньцы на адзначэньне ейнага нядаўняга 70-годдзя.

Сход завяршыўся сьпевам гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і сьвяточным прыняцьцём.

Пасьля сходу сябры ЗБВБ наведалі сп. Вольгу Жынгель і ўручылі ёй кветкі у сувязі з 90-гадовым юбілеем.

## Украіна




Добраахвотнікі з тактычнай групы «Беларусь» ва Украіне запісалі зварот у гонар 101-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі:

"Браты-беларусы! У гэты дзень, 101 год таму, нашы продкі здабылі незалежнасьць нашай дзяржавы! За гэта наш Крывіцкі род больш за 70 гадоў цярпеў зьдзекі і прыгнёт з боку ўсходняй імперыі. Яны знішчалі нашу інтэлігенцыю — розум нацыі, забаранялі мову і пісьменнасьць, але мы выстаялі і сёньня маем сваю дзяржаву, дзякуючы ахвярнасьці нашых продкаў.Сёньня пытанне нашай незалежнасці стаіць востра, як ніколі.

Мы, байцы-беларусы ва Украіне, запэўніваем вас, што першымі прыйдзем на абарону нашай Радзімы! Але толькі з'яднаўшыся мы зможам даць адпор нашэсьцю! Ад кожнага з нас залежыць лёс нашай Бацькаўшчыны!

Жыве Беларусь! Жыве вечна!"

## Чыкага

**Беларуская грамада Чыкага і ваколіцаў адзначала сёлетні Дзень Волі 30 сакавіка ў залі Skokie Public Library.**

**Гэтым разам Сьвята было праведзена у форме размовы, дыскусіі на тэму: “Беларусь будучыні: нашыя мэты і магчымая шляхі да выканання”.**

## Каліфорнія



Беларусы Сан-Францыска і Бэй Эрыі сабраліся на свята Дня Волі
у маляўнічым парку горада Сан Матэа, на беразе заліва Сан-Францыска.

Арганізатарка сьвята Надзея Нортан павіншавала беларусаў са 101-й гадавінай абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі і крыху распавяла пра гісторыю стварэньня БНР, ды заклікала пап-ляскаць у далоні ў гонар айцоў-заснавальнікаў БНР. На свята з Арызоны спецыяльна прыляцела заснавальніца Фэйсбук-суполкі "Official Page: Belarusians in California - San Francisco/Bay Area", якая існуе ад 2008 года, Ліана Бурсава. Яна прывітала ўсіх, ды прапанавала кожнаму падысці да незнаёмага чалавека і пагутарыць.

У гэтым годзе на свята быў запрошаны вядомы беларускі музыка Сяргей Доўгушаў. Ён распачаў канцэрт, засьпяваў беларускія песьні, зайграў на ліры і дудках. Песьні «Талака» пад гітару ўсе голасна падпявалі. Сяргей Доўгушаў заклікаў усіх стаць у кола, пачалося «Гуканьне вясны», якая крыху затрымалася нават і ў Каліфорніі, пад сьпевы «Мядуніцы» ды іншыя вадзілі карагоды, гулялі ў розныя беларускія гульні (”Мост”, ”Бабыль” ды іншыя).

Удзельнікі сьвята прынеслі шмат ежы, з прысмакаў нават былі дранікі, смажаныя на грыле каўбаскі, разынкай сьвяточнага стала стаўся торт з надпісам БНР 101.

Напрыканцы адбыўся мабыць самы кранальны момант сьвята: першы на Каліфорніўшчыне «Спеўны ход» выканаў гімны БНР. Сяргей Доўгушаў падрыхтаваў публіку да сьпеваў, і пад музыку беларусы Каліфорніі, шмат хто ўпершыню, засьпявалі «Пагоню», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», пры гуках гімну «Магутны Божы» былі бачныя слёзы ў вачах. Не дзіва, бо на гэты момант усе разам апынуліся ў роднай прасторы, мы стварылі сваю Беларусь на чужыне, адчувался зладжанасьць сьпеву і пачуцьцё еднасьці, гонару і адначасова болю за Радзіму. І як апошні акорд сьвята, усе разам заспявалі лірычную і ўсімі любімую "Купалінку".

Беларусы падыходзілі да Надзеі Нортан і Сяргея Доўгушава, дзякавалі за сьвята і выступ, распытвалі Сяргея наконт інструмэнтаў, ды ягонай творчасьці ў Беларусі. На сьвяце прысутнічаў бельгіец Сымон, які пад час навучання ў беларускай кансэраваторыі не толькі навучыўся размаўляць, але і ажаніўся на беларускай дзяўчыне; і зараз выдатна разумее беларускую мову. Працуе ён у школе, недалёка ад Сан-Францыска, дзе распавядае пра традыцыю беларускіх народных сьпеваў. Таксама завітала пара з Канады, якая зараз жыве ў Сан-Францыска: беларуска з Таронта, дачка сьпевакоў з гурту «Яваровы людзі» са сваім мужам- канадыйцам.





Агулам прысутнічала каля 65 чалавек, па ўсёй пляцоўцы луналі бел-чырвона-белыя сьцягі з Пагоняй. Большасць прысутных была ў вопратцы з элементамі беларускай гістарычнай сымболікі.Усім жадаючым малявалі бел-чырвона-белыя сьцяжкі на тварах, асабліва гэта спадабалася маленькім беларусам.

Свята атрымался аптымістычным, добрым, сонечным і, як адзначалі многія ўдзельнікі, душэўным. Беларусы выразна засведчылі сваю гасціннасць, добразычлівасць і ветлівасць, а, найперш, сваю адданасьць Бацькаўшчыне Беларусі.

## Вашынгтон

З нагоды 101-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада БНР правяла ў сталіцы Злучаных Штатаў Вашынгтоне цырымонію ўзнагароджаньня мэдалямі амэрыканскіх дыпляматаў, якія працавалі ў Беларусі і для Беларусі, і беларускіх дзеячоў.

Апошні раз беларускі ўрад у эміграцыі даваў узнагароды «сябрам Беларусі» больш за 70 гадоў таму, цяпер такую практыку вырашылі аднавіць. Прыём зладзіў Вашынгтонскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) у штабе амэрыканскіх праваабаронцаў Human Rights First.

**Мэдалямі былі ўганараваны:**

*былыя амбасадарары ЗША у Беларусі Дэйвід Суорц, Кенэт Ялавіц, Дэніел Спэкхард, Майкл Козак і Джордж Крол;*

*кангрэсмэны Крыстафэр Сьміт і Джон Шымкус;*

*былы палітычны дарадца АБСЭ Орэст Дэйчакіўскі;*

*старшыня Аб'яднанага Балтыйска-Амэрыканскага нацыянальнага камітэту Карл Алтаў;*

*дасьледнік і экспэрт ў пытаньнях Беларусі Курт Вулгайзэр;*

*праваабаронца і дзяржаўны дзеяч Дэйвід Крэймэр;*

*дыплямат і фатограф Джон Кунстадтэр;*

*палітычная актывістка і заснавальніца Фонду «Мы памятаем» Ірына Красоўская;*

*грамадзкая дзеячка і экс-старшыня Вашынгтонскага аддзела БАЗА Алеся Кіпель;*

*перакладнік Васіль Сёмуха (узнагароджаны пасьмяротна, за яго мэдаль ўзяла дачка Алеся Сёмуха).*

Орэст Дэйчакіўскі ня змог прысутнічаць, бо вёў назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі ва Украіне. Ён перадаў пісьмовае вітаньне: «Я рады, што меў магчымасьць зрабіць унёсак у барацьбу за дэмакратычную, незалежную Беларусь. Гэта барацьба, якую варта весьці».

Ірына Красоўская прысьвяціла сваю ўзнагароду Анатолю Красоўскаму, Віктару Ганчару, Юрыю Захаранку і Зьмітру Завадзкаму — «тым, хто аддаў жыцьцё, бароннячы незалежнасьць Беларусі».



# Дзень Волі ў Канадзе

## Таронта



24 сакавіка ў Беларускім Цэнтры ў Таронта прайшлі ўрачыстасьці з нагоды 101-х угодкаў абвяшчэньня БНР. Бел-чырвона-белыя Беларускі і Канадыйскі сьцягі луналі на ўваходзе ў будынак. У залі на сталах, аздобленых беларускімі ручнікамі, абрусамі, сьцягамі дэманстраваліся выставы кніг па тэме БНР, гісторыі Беларусі. Бел-чырвона-белыя сьцягі зьвісалі панад заляй. Побач з трыбунаю сьцягі Канады і Антарыё, вялізарны герб Рады БНР. На асобным стале, аздобленым беларускім сьцягам, партэты Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага.



Сьвяточную службу ў Царкве Св. Кірылы Тураўскага правялі Архіяпіскап Сьвятаслаў і айцец Аўген. Пасьля сканчэньня багаслужбы -сустрэчы, размовы ў залі. Гучалі беларускія мелёдыі, сьпевы. Настрой ва ўсіх сьвяточны. Пад кіраўніцтвам сп. Надзеі Дробінай былі прыгатаваныя розныя стравы, якімі з задавальненьнем частаваліся госьці, што прыбылі з розных куткоў Антарыё для ўдзелу ва ўрачыстай імпрэзе.

Пачынаючы сход, старшыня Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады (ЗБК ) сп. Алёна Лявончанка павіншавала прысутных са сьвятам. Удзельнікі сьвяточнага сходу прасьпявалі гімны Беларускае Народнае Рэспублікі і Канады.

Сп. Алесь Кот зрабіў кароткі экскурс у гісторыю беларускае дзяржаўнасьці, акцэнтаваўшы, што 25 сакавіка 1918 г. сталася магчымым дзякуючы бесперапыннаму тысячагадоваму змаганьню нашых продкаў за сваю зямлю, дзяржаву, за незалежнасьць ад суседніх ваяўнічых дзяржаваў, намагаўшыхся паняволіць народы Літвы-Беларусі. Нават 125-гадовая расейская акупацыя нашага краю не зьнішчыла прагі беларусаў да волі, якія як і шэраг іншых народаў Расеі, у 1918 годзе абвясьцілі пра ўтварэньне сваёй незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.

Старшыня Рады БНР сп. Івонка Сурвілла зьвярнулася з віншавальным зваротам з нагоды 101-е гадавіны абвяшчэньня БНР. Напрыканцы свае прамовы сп. Сурвілла паведаміла прысутным пра прыняtae ў 2018 г. Радай БНР рашэньне ўвесьці юбілейны Медаль да Стагоддзя БНР. І сёньня яна мае ўручыць гэты медаль шэрагу канадыйскіх



беларусаў за іх адметны ўнёсак у агульную беларускую справу падтрымкі беларушчыны на чужыне, прасоўваньня беларускае культуры гісторыі, традыцыяў у вольным сьвеце.

Працэдуру ўзнагароджаньня беларусаў Канады Медалём Стагоддзя вёў Старшыня Канадыйскага Сэктару Рады БНР сп. Алесь Кот .

У гэты дзень на ўрачыстасьцях у Таронта дзяржаўную ўзнагароду БНР з рук Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы атрымалі дзеячы беларускае дыяспары ў Канадзе:

Ірына Варабей — міжнародна вядомая дызайнэр і мастак, папулярызатар беларускага народнага мастацтва ў Канадзе і ў сьвеце, заснавальнік і кіраўнік дызайнерскае кампаніі Spirit of Belarus.

Прафэсар Зінаіда Гімпелевіч — выбітная беларуска-канадзкая літаратуразнаўца і актыўная дзяячка беларускае грамады ў Канадзе, сузаснавальніца Канадзкага фонду дапамогі дзецям Чарнобыля, на працягу многіх гадоў старшыня Беларускага інстытуту культуры і мастацтва ў Канадзе,

Вольга Іпатава — выбітная беларуская пісьменьніца і грамадзкі дзеяч, ляўрэат шматлікіх літаратурных прэміяў, у мінулым старшыня Саюза беларускіх пісьменьнікаў, чые творы перакладзеныя на некалькі моваў,

Віялета Кавалёва — музыказнаўца, заснавальнік і кіраўнік знакамітага канадзка-беларускага фальклёрнага ансамблю "Яваровы людзі", які робіць значную працу па рэпрэзэнтацыі беларускай дыяспары ў канадзкім грамадзтве, папулярызуе беларускую культуру як у Канадзе, так і за яе межамі,

Сяргей Панізьнік — вядомы літаратар і журналіст, этнограф, перакладчык, шматгадовы заслужаны грамадзкі дзеяч у Беларусі і Канадзе, Ірына Тоўсьцік — у мінулым праваабаронца ў Беларусі, у цяперашні час грамадзкі дзеяч у Канадзе, актыўны арганізатар адукацыйных заняткаў для маладога пакаленьня канадзкіх беларусаў.

Урачыстасьці завершыліся культурнаю праграмаю. На гэты раз прысутных парадаваў сваім прафесійным майстэрствам дзіцячы сьпеўны гурт "Яваровы Дзеці" пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай.

***Алесь Кот***





# Сьвяткаваньне Дня Волі

Нью-Ёрк








Традыцыйна галоўная сьвяточная імпрэза ў Нью-Ёрку адбываецца ў будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык Авэню ў Брукліне, які ёсьць Беларускім цэнтрам у "сталіцы сьвету". Сёлета 24 сакавіка тут сабраліся беларусы з гораду і ваколіцаў, прыехалі таксама сябры БАЗА з Філадэльфіі. Сьвяточную імпрэзу ладзілі Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня (БАЗА) і Нью-Ёркскі аддзел БАЗА.

Сьвята распачалося багаслужбаю у Саборы, пад час якой быў адслужаны малебен за Беларусь. Царкву аздаблялі ўрачыста ўнесеныя беларускі і амэрыканскі сьцягі.

Далей дзея перамясьцілася ў грамадзкую залю. Прысутных віталі старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Натальля Федарэнка і старшыня Нью-Ёркскага аддзелу сп. Сяргей Кудзеліч. Урачыстым пачаткам афіцыйнай часткі сьвята сталася выкананьне гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сьвяточнае віншаваньне ад старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы зачытала сп. Галіна Пазьняк. Са змястоўным рэфэратам выступіў адзін са старэйшых беларускіх грамадзкіх дзеячаў у Амэрыцы сп. Мікола Гарошка. З прывітальнай прамоваю выступіў сп. Зянон Пазьняк, які асьвятліў сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі і акрэсьліў тыя небясьпекі, якія сёньня пагражаюць незалежнасьці краіны. Госьцем з Беларусі на сьвяце быў вядомы палітычны і грамадзкі дзеяч сп. Юрась Беленькі, які таксама гаварыў пра сёньняшнюю палітычную











сытуацыю ў Беларусі і пра тое, што трэба і можна рабіць на Бацькаўшчыне і ў замежжы, каб захаваць незалежнасьць нашай краіны і павярнуць яе на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

На завяршэньне сьвяткаваньня мастацкую праграму прадставіў другі госьць з Беларусі — сп. Мікіта Найдзёнаў. Ён належыць да той часткі часткі беларускай моладзі, якая ўсьведамляе сябе беларусамі, выяўляе высокую актыўнасьць у беларускім жыцьці краіны, разьвівае ў сучасным умовах нацыянальную культуру ва ўсіх яе накірунках. Мікіта чытаў свае вершы і сьпяваў пад гітару сучасныя беларускія мелодыі, якія папулярныя сярод моладзі.

На сьвяце прысутнічала і вяла відэазапіс творчая група БЕЛСАТ з Варшавы, якім мы вельмі ўдзячныя за ўвагу да жыцьця беларусаў у Нью-Ёрку.

## Нью-Ёрк




У гэтым годзе арганізатары сьвяткаваньня ў Нью-Ёрку вырашылі пашырыць ягоныя рамкі навонкі. 23 сакавіка быў арганізаваны мітынг пратэсту супроць дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, які нясе пагрозу страты незалежнасьці краіны. Мітынг прайшоў у цэнтры Мангэтану ў тым месцы, дзе знаходзіцца Беларускі консулят (3 Авэню і 44 Стрыт). Акрамя сяброў БАЗА у ім прынялі ўдзел сябры Згуртаваньня "Пагоня" і іншыя зацікаўленыя імігранты з Беларусі.








## Беласток



Беларусы Беласточчыны ўрачыста адзначылі сёлетні Дзень Волі. Напачатку быў заслуханы аўдыёзапіс звароту старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы з нагоды 25 сакавіка, скіраваны да беларусаў Беласточчыны. Удзельнікі сьвяткаваньня пабачылі кароткі фільм Лукаша Стэпанюка пра мінулагодняе сьвяткаванне 25-га сакавіка ў Беластоку.

Прафесар Алег Латышонак распавёў пра падзеі больш як 100-гадовай даўніны — дзейнасць беларускага ўраду ў Гародні і адраджэньне на Беласточчыне. Прадстаўнік арганізацыйнага камітэту сьвяткаваньняў Яўген Вапа прыгадаў, што Дзень Волі беларусы Падляшша адзначаюць на працягу 30-ці гадоў: " Для нас важна тое, што беларусы Беласточчыны былі сярод тых, хто будаваў БНР. Першы прэм'ер Язэп Варонка з Кузніцы Беластоцкай, які потым эміграваў у Амерыку, дзе таксама займаўся беларускімі справамі. Акт 25-га сакавіка дае менавіта тое эмацыйна-псіхалагічнае пачуццё, што мы не горшыя". З канцэртам выступіў бард Анрэй Мельнікаў з Беларусі.

# Ушанаваньне памяці паўстанцаў у Вільні

На пачатку 2016 году на гары Гедзіміна ў Вільні здарыўся апоўзень, а неўзабаве яшчэ адзін. Паўстала пагроза, што можа не ўтрываць славутая вежа, помнік гісторыі і культуры XIV стагодзьдзя.

У студзені 2017 першымі там пачалі працаваць археолягі. Літаральна празь некалькі дзён ім адкрылася пахавальная яма, у якой, згодна з пазьнейшымі антрапалягічнымі дасьледаваньнямі, ляжаў Кастусь Каліноўскі і ягоныя паплечнікі — удзельнікі паўстаньня 1863-64 гадоў, жорстка пакараныя царскімі расейскімі ўладамі.

Адразу пасьля гэтых знаходак была створаная Дзяржаўная камісія ў справе перапахаваньня пад кіраўніцтвам прэм'ер-міністра Літвы Саўлюса Скварняліса. Парэшткі паўстанцаў пахаваюць на віленскіх Росах. Мэмарыяльныя ўрачыстасьці заплянаваныя на дзень ушанаваньня памерлых продкаў — Дзяды, 2 лістапада 2019 году.

Пахаваць паўстанцаў Літва пляне сумесна з Польшчай. Прыняць удзел ва ўрачыстасцях афіцыйная Вільня запрасіла і Беларусь, але менскія ўлады цікавасці не праявілі.

Спачатку ў Вільні з прычыны пасіўнасьці беларускага ўраду вырашылі, што надпісы на магілах будуць па-літоўску і па-польску. Толькі, калі беларуская грамадзянская супольнасьць выказала незадавальненьне, зноў вярнуліся да моўнага пытаньня. У Вільні прайшла сустрэча прадстаўнікоў адмыслова створанага Беларускага грамадзкага камітэту памяці паўстанцаў 1863-1864 гадоў з віцэ-канцлерам ураду Літвы Дэйвідасам Матулёнісам. На ёй было дамоўлена, што прозьвішчы ахвяраў расейскай акупацыйнай адміністрацыі будуць напісаныя на трох мовах — літоўскай, польскай і беларускай.

У 155-ю гадавіну гібелі Кастуся Каліноўскага сотні беларусаў прайшлі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі па цэнтры Вільні — ад месца апошняга зьняволеньня кіраўніка паўстаньня да Лукішскага пляца, дзе ён быў павешаны. Тую памятную імпрэзу прадстаўнікі дзяржаўных установаў Беларусі таксама праігнаравалі.







# Вялікдзень у Нью-Ёрку

Традыцыйна беларусы Нью-Ёрку зьбіраюцца на Вялікдзень у Саборы Сьв.Кірылы Тураўскага на 401 Атлантык Авэню ў Брукліне. На ўсёночную службу прыходзяць тыя, хто захоўвае царкоўныя абрады і мае сілы пратрымацца ўсю ноч на нагах. Не ўсе таксама могуць здалёку дабрацца да царквы ў начныя часы. Сёлета такіх ахвярных сабралася каля 40 чалавек. Царква была прыгожа ўбраная да Сьвята. Усе чакалі, калі нарэшце пачуюць урачыстыя словы сьвятара "Хрыстос Уваскрос!", каб з хваляваньнем адказаць "Сапраўды Уваскрос!". Пасьля Багаслужбы і асьвячэньня "сьвяточных кошыкаў" прысутныя сабраліся за сталом, каб разгавецца вялікоднымі стравамі, прыгатаванымі сястрынствам. Разышліся пад раніцу, каб працягнуць Сьвята дома, сярод сваіх родных і блізкіх.





## Беларусы Фларыды: Мы пратэстуем супраць варварскага рэжыму ў Беларусі!

Аддзел у Паўднёвай Фларыдзе Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня (БАЗА) штогод праводзіць «Чарнобыльскі шлях» у Маямі. Сёлета беларусы выйшлі на вуліцу з новымі плякатамі, беларускімі сьцягамі і жоўтымі балёнікамі, што выклікала зацікаўленасьць з боку мінакоў.

На мітынгу выступіў старшыня Аддзела БАЗА Паўднёвай Фларыды, былы гамяльчук Андрэй Пушкароў:

"Сябры! 26-га красавіка асаблівая, трагічная дата для нашага беларускага народа. Чарнобыльская катастрофа патрэсла тады не толькі вялізны Савецкі Саюз, але і ўвесь сьвет. Сёньняшняе стаўленьне беларускіх уладаў да гэтай народнай бяды не толькі выклікае зьдзіўленьне, але і нагадвае злачынства.




Дзяржавай замоўчваюцца памеры і наступствы гэтай аварыі, хаваюцца і фальсіфікуюцца сёньняшнія зьвесткі вакол гэтай праблемы, спыняецца фінансаванне і дапамога пацярпелым. Смяротнасьць жахліва расьце. Колькасьць насельніцтва Рэспублікі Беларусь штогод катастрафічна скарачаецца.

На тэрыторыі Беларусі ўзводзяць новую атамную станцыю, ствараюць новыя небясьпечныя прадпрыемствы, якія пагражаюць новымі экалягічнымі катастрофамі.

Улада працягвае планамерна зьнішчаць свой народ, а сёлета нават забараніла народнае шэсце «Чарнобыльскі шлях» у Менску".

Таксама выказаў сваю пазіцыю Сяргей Ельяшэвіч, які праскандаваў:

"Мы пратэстуем супраць варварскага, дыктатарскага рэжыму ў Беларусі!

Мы пратэстуем супраць ілжывага, злога, злачыннага клана ў Беларусі!

Мы не забудзем сапраўдных герояў, людзей, якія мужна кінуліся на рэактар, ратуючы нас коштам уласнага жыцьця!

Мы заўсёды будзем памятаць гэтую трагічную старонку ў гісторыі нашага шматпакутнага беларускага народа!"

Напрыканцы акцыі мінакам былі раздадзеныя жоўтыя балёнікі.

У Курапатах напачатку красавіка былі па барбарску выдраныя з зямлі і вывезеныя на траках больш сотні крыжоў, якія былі пастаўленыя грамадзкімі актывістамі і звычайнымі грамадзянамі дзеля ўшанаваньня памяці забітых і пахаваных там людзей пад час сталінскіх рэпрэсій. Народны мемарыял панёс вялікія страты, якія ці ўдасца некалі аднавіць.

Сымбалічна, што адбыліся гэтыя страшныя падзеі пад час, калі праваслаўная царква адзначала Крыжапаклонны тыдзень — ушанаваньне Хрыстовага Крыжа, на якім Сын Божы прыняў пакуты і памёр





# Крыжалом







дзеля нашага збаўленьня. Гэты час перадсьвяточны, калі вернікі рыхтуюцца да Вялікадня пад сымбалям Крыжа. У сягодняшніх уладаў паднялася рука на сьвятыні таму, што гэтая ўлада не ад Бога, ўсё Боскае чужое для яе і выклікае ў яе прыслушнікаў толькі нянавісьць і жаданьне нішчыць хрысьціянскія сьвятыні на нашай зямлі. У гэтым сучасны рэжым у Беларусі становіцца вельмі падобным на тыя антыхрысьціянскія, антыцывілізацыйныя сілы, які ўзрываюць хрысьціянскія храмы разам з людзьмі, падпальваюць іх. Беларускія сумныя падзеі нават па часе амаль супадаюць з пажарам Сабору Парыжскай Багамаці, шматлікімі ўзрывамі ў Шры Ланкі, якія ўскалыхнулі ўвесь сьвет. Гэта не толькі зьнішчэньне памяці пра злачынствы сталінізму, але і наступ на хрысьціянскую цывілізацыю, на эўрапейскія духоўныя каштоўнасьці.

Да сёньня дыктатар не сказаў ніводнага слова пра крыжалом у Курапатах, не асудзіў, не пакараў вінаватых. Так адбываецца таму, што ўсё рабілася па ягонаму загаду. Цяпер так выразна стала бачна, якая злая сіла кіруе нашай краінаю.

Расправа з крыжамі выклікала бурныя пратэсты, як сярод беларускай грамадзкасьці, так і ў сьвеце. Амэрыканскія беларусы выказалі сваю адназначную салідарнасьці з тымі, хто пратэставаў супроць гэтага дзікунства.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) арганізавала адмысловы мітынг пратэсту ў Нью-Ёрку, насупроць будынкаў ААН у Мангэтане на 1 Авэню. Сябры БАЗА прыйшлі з лёзунгамі і нацыянальнай сымболікаю. Прамоўцы выказвалі сваё абурэньнен супроць дзеяньняў уладаў. Зацікаўленым мінакам распавядалі пра Беларусь і пра мэту нашага пратэсту. Старшыня Парафіяльнай рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне таксама выступіў з заяваю пратэсту ад імя вернікаў царквы.




**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**
**САБОР СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**
**401 ATLANTIC AVE, BROOKLYN, NY 11217-1702, USA | 718-858-2435**

## АБ ЗНОСЕ КРЫЖОЎ У КУРАПАТАХ

Як Старшыня Парафіяльнай Рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, хочу выказаць моцную абразу й абурэньне, маё асабістае й нашых парафіянаў, калі мы даведаліся, што рэжым Лукашэнкі зьнёс каля 100 крыжоў на Беларускім Нацыянальным Мэмарыяле у Курапатах, там, дзе пахавана тысячы нявінных ахвяраў камунізму ў часы сталінскіх рэпрэсіяў .

Па першае, для Хрысьціяніна знос крыжоў, асабліва ў гэтым сьвятым месцы, гэта знак глыбейшага зла, брыдоты й агіднасьці супраць Бога й вялікая зьнявага ўсіх пахаваных там.

Нават ад Лукашэнкі цяжка было спадзявацца, што ён можа апусьціцца так нізка, але, гэты чалавек ніякага сумленьня ня мае, яму, відаць, Масква важнейшая за Бога.

Тое, чаго хоча Лукашэнка, ўжо паказалі мінулыя гады. Ён цягне Беларусь назад у Савецкі Саюз або ў нешта падобнае, у саюз з Расеяй. Пры ім не было ніякіх эканамічных рэформаў, праваленая савецкая эканамічная сыстэма засталася ў Беларусі. Сам ён гаворыць па-расейску й вядзе свой урад на расейскай мове. Школы ў вялікай бальшыні расейскія. Савецкі тып дыктатуры захаваўся ў Беларусі.

Курапаты, якія паказваюць злачынствы Масквы, перашкаджаюць гэтаму кіраўніку калгаса, цяпер кіраўніку дзяржавы, зблізацца да Масквы, чаго ён вельмі хоча. Зносам крыжоў ён спрабуе зацерці памяць для ўсёй краіны аб тым, што там здарылася за часоў расейскага камунізму й паказаць Маскву ў лепшым сьвятле.

Вось чаму крыжы зносяць у Курапатах, але не будзе так, як рэжым хоча. Будзе наадварот, будзе ўздым беларускага народу, а крыжы павінны быць і будуць вернутыя.

***Расьціслаў Гарошка,***
*Старшыня Парафіяльнай Рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага*

# Прэзентацыя новага выданьня З. Пазьняка



14 красавіка ў беларускім цэнтры пры Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку адбылася прэзэнтацыя першага нумара першага ў гісторыі Беларускай фатаграфіі пэрыядычнага выданьня па фатаграфіі — "БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ ФАТАГРАФІЯ" Зянона Пазьняка.

Першы нумар перыядычнага выданьня быў складзены з двух частак. Першая частка — гэта падборка фотаздымкаў спадара Зянона "Тыпажы Нью-Ёрка". Аўтар падзяліўся тым, што фатаграфія заўсёды была адным з накірункаў яго творчай дзейнасьці. Падчас быцьця ў Амэрыцы ў спадара Зянона назьбіралася шмат фотаздымкаў, якія можна падзяліць недзе на дзевяноста тэмаў.

Другая палова выданьня — гэта падборка фотаздымкаў спадара Джона Кунстадтэра, у прошлым — амэрыканскага дыплямата, сёньня — прафэсыйнага фатографа, які падчас дыпляматычнай працы ў Беларусі палюбіў беларускую вёску, простых людзей, якія там жывуць, і штогод прыяздждае ў Беларусь здымаць простых беларусаў, іх культуру і побыт.




# Сьв. памяці Майкла М. Уехары
## 1 красавіка 1954 — 10 студзеня 2019

Пайшоў з жыцьця вялікі сябар Беларусі Майкл М. Уехара (Michael M. Uyehara), які ў свой час узначальваў Беларускі дэск, а таксама працаваў дырэктарам офіса Эўрапейскіх справў Бюро па дэмакратыі, правах чалавека і працы пры Дзярждэпартаманце ЗША.

Майк быў вялікім сябрам тых, хто зацікаўлены ў разьвіцьці павагі да правоў чалавека і дэмакратыі. Ён быў надзвычайнай падтрымкай тым з нас, хто выступае за свабоду і вяршэнства закона ў Беларусі. З таго дня, як мы сустрэліся з Майкам ў першы раз, для нас было відавочна, што ён клапаціўся пра Беларусь.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне страціла адданага сябра і партнэра. Мы будзем сумаваць па Майку і назаўжды ўдзячныя яго дапамозе цягам многіх гадоў.

**Вечная памяць.**



*Сустрэча па беларускім пытаньні ў Вашынгтоне. (М.Уэхара — чацьвёрты зьлева)*

# У Філадельфіі ўшанавалі памяць Касьцюшкі

Беларускай грамадою ў Філадэльфіі была арганізавана акцыя памяці, прысьвечаная 273-й гадавіне з дня народзінаў Тадэвуша Касьцюшкі. З гэтым горадам была зьвязана дзейнасьць героя ў ЗША і там цяпер знаходзіцца ягоны мемарыял у доме, дзе некалі ён жыў. Беларусы ўсклалі кветкі і запалілі памінальныя сьвечкі каля помніка Касьцюшку ў цэнтры гораду.



# Сьв. памяці Вольгі Грыцук

Парафія сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта з глыбокім смуткам паведамляе пра адыход у іншы сьвет сп. Вольгі Грыцук — слыннай дзяячкі беларускаў эміграцыі ў Канадзе і выказвае шчырыя спачуваньні сям'і ейнай дачкі Юльяны.

Сяргей Панізьнік, віншуючы спадарыню Вольгу з 90-годдзем у 2013 годзе, пісаў: "А нарадзілася каля старажытнага беларускага горада Дзісна. І я нарадзіўся недалёка ад Дзісны ў 1942 годзе. Вольга, дачка Васіля Дуброўскага, назаўсёды пакінула руіны згарэлага ад бамбёжак дома ў 1944 годзе." Невымерны патрыятызм Вольгі — гэтай прыўкраснай галінкі на радаводным дрэве Дуброўскіх — натхняе чытача яе кнігі "Мы стварылі сваю Беларусь (Жыццё і дзейнасць Аляксея Грыцука)". Гэты зборнік выдадзены ў Мінску ў 2007 годзе. Такім чынам была ўзноўлена памяць аб адным з лідэраў пасляваеннай эміграцыі ў Канадзе Аляксею-Алесю Грыцуку (1910-1976) — таленавітым і мужным сыне беларускага народа. Вольга Грыцук, натхнённая сваім мужам, стала актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з арганізатараў Згуртавання беларускіх жанчын Канады. У 1975-м абрана старшынёй ЗБЖ і ўзначальвала Згуртаванне да 1993 года. Актыўна дапамагала ў справе аздараўлення дзяцей з Беларусі, пацярпелых ад Чарнобылю.

Вось цытата з названай кнігі Вольгі Грыцук: "Тут, у Канадзе, мы адбудавалі сваю Беларусь, мы стварылі яе наўзамен той, якую страцілі і аб якой заўсёды марылі. Як маглі, стараліся працаваць дзеля яе..."

Нядаўна сп. Вольга Грыцук, як выбітная грамадзкая дзяячка сярод беларускага замежжа, была ўзнагароджана медалём да 100-годдзя БНР.

**Сьветлая памяць сьветламу чалавеку!**

# Слаўны юбілей слаўнага чалавека



24 красавіка свой 75-ы дзень нарадзінаў адзначаў сп. Зянон Пазьняк. Не знойдзецца ў Беларусі чалавека, хто б не ведаў ягонае слаўнае імя — лідэра новага беларускага Адраджэньня, лідэра дэмакратычнага і незалежніцкага апазыцыйнага руху, заснавальніка і старшыні Беларускага Народнага Фронта, адкрывальніка Курапатаў, старшыні дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, якая дамаглася аднаўленьня незалежнасьці Беларусі, да таго ж навукоўца і творчага чалавека — гісторыка, публіцыста, паэта, фотамастака. Шматграннасьць асобы сп. Пазьняка ўражвае, так, як і ягоная неверагодная працаздольнасьць, што дазваляе пасьпяхова рэалізаваць усе ягоныя здольнасьці.

На эміграцыі сп. Зянон не страціў сваю актыўнасьць у палітычным і грамадзкім жыцьці, ён застаецца дзейным удзельнікам палітычных працэсаў у Беларусі. У асяродку беларускай эміграцыі ў Амэрыцы лідэр набыў новыя магчымасьці для працы на карысьць беларускай справе. Ягоная прысутнасьць і актыўны удзел у беларускім жыцьці эміграцыі значна падвышае ролю амэрыканскай беларускай грамады ў сучаснай беларускай рэальнасьці, дае стымул для большай актыўнасьці беларускіх асяродкаў у Амэрыцы. Зянон Пазьняк ёсьць сёньня прыкладам для многіх маладых нацыянальна сьведамых беларусаў, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны.

Ад імя Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), ад Рэдакцыі нашай газэты "Беларус" мы сардэчна віншуем сп. Зянона са слаўным юбілеем. Дзякуем за супрацу і зычым доўгага і плённага жыцьцёвага шляху на будучыню.

Няхай ажыцьцяўляцца як мага хутчэй Вашыя мары, сп. Зянон, пра вольную, дэмакратычную, незалежную Беларусь і пра шчасьлівае вяртаньне дадому!


Сустрэча ў Вашынгтоне

# Сустрэчы з Курэйчыкам у Амерыцы

30 сакавіка сябры Вашынгтонскага аддзелу БАЗА сустрэліся зь вядомым беларускім сцэнарыстам і кінарэжысёрам Андрэем Курэйчыкам і зладзілі прагляд ягонага фільма "ГараШ".

У Нью Ёрку для сяброў тутэйшага кінаклюба й аматараў кіно Курэйчык правёў мастэрклас "Як напісаць самы лепшы ў жыцьці сцэнарый", дзе распавёў пра гісторыю і сучаснасьць сцэнарыстыкі, а таксама падзяліўся парадамі ад прызнанага прафесіянала ды й адказаў на шматлікія пытаньні прысутных. Потым адбыўся прагляд фільма "ПартыZAN", ў якім Курэйчык выступіў сцэнарыстам і рэжысёрам, а пасьля адказаў на пытаньні гледачоў пра стужку.


**Вашынгтонскі аддзел БАЗА віншуе Лілю Смелкава і Шона Кокергэма з нарадзінамі сына Максіміліяна.**

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Укладзімір Алыцкі | $ 50 |
| Юрка Андрусішын | $ 50 |
| Яўген Бойка | $ 50 |
| Кастусь Вайцяхоўскі | $ 50 |
| Сяргей Вількоўскі | $ 50 |
| Валеры Зайцаў | $ 50 |
| Кацярына Кабановіч | $ 50 |
| Ольга і Яўген Кабяка | $ 50 |
| Дзмітры Карніцкі | $ 50 |
| Іван Кацярыніч | $ 30 |
| Уладзімір Кудзеліч | $ 20 |
| Вальжына Лойка | $ 60 |
| Ліза Літаровіч | $ 50 |
| Марыя Мароз *(Аўстралія)* | $ 60 |
| А. Мароз *(Аўстралія)* | $ 60 |
| Е.Дамброўскі *(Аўстралія)* | $ 60 |
| М.Раецкі *(Аўстралія)* | $ 60 |
| Belarusan Associatin in WA, Inc *(Аўстралія)* | $ 60 |
| Валеры Мінец | $ 50 |
| Сяргей Неўдах | $ 50 |
| Дзмітры Нінартовіч | $ 50 |
| Элеанора Норык | $ 50 |
| Юры Носаў | $ 50 |
| Богдан Паўк | $ 50 |
| Галіна Пузач | $ 70 |
| Сяргей Пузач | $ 70 |
| Таццяна Пекарчык | $ 50 |
| Яўген Пяршчырс | $ 50 |
| Уладзімір Ракуць | $ 100 |
| Сяргей Рудкоўскі | $ 50 |
| Валерыя Сташаніна | $ 50 |
| Сяргей і Таццяна Уладзіміравы | $ 50 |
| Вадзім Церахаў | $ 50 |
| Алег Шаўрыцкі | $ 50 |
| М.Шведзюк *(UK)* | $ 50 |
| Дзмітры Юруш | $ 50 |

**Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:
Адказны рэдактар
Ганна СУРМАЧ
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
Таня КРАСОЎСКАЯ
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
Галіна ПАДЛЕСКАЯ
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
Натальля СТАРАВОЙТАВА


Паштовы адрас Рэдакцыі:
BIELARUS Newspaper
P.O. Box 456
New York, NY 10025
USA
Электронны адрас (E-mail):
bielarus@bazahq.org

Кампутарная вёрстка
Mikalai Media Productions

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісваць на імя: BIELARUS Newspaper і дасылаць скарбніку на паштовы адрас Рэдакцыі.*
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.*

*Printed in USA*